© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXVII, № 259-260 New York, November-December — Ліст.-Сьнежань 1978 Vol. XXVII, № 259-260

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ СЬВЯШЧЭННАГА САБОРУ ЯПІСКАПАЎ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ

**ДАСТОЙНАМУ СЬВЯТАРСТВУ Й УСІМ БАГАЛЮБНЫМ ВЕРНІКАМ НАРОДУ БЕЛАРУСКАГА НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ УЛЮБЛЕНЫЯ Ў ГОСПАДЗЕ АЙЦЫ ДУХОЎНЫЯ, БРАТЫ, СЁСТРЫ Й ДЗЕЦІ!**

### ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ!

Хрыстос нарадзіўся! Гэта кліч шчырага захапленьня, які выходзіць з вуснаў кажнага хрысьціяніна, асабліва ў нашыя часы, калі душа так моцна прагне хрысьціянскае любові, надзеі на сьветлую будучыню й супакою на зямлі.

Бог Прадвечны нарадзіўся! Гэтая радасная вестка прыйшла зь нябёсаў, якая ад Сьвятога Вечара разносіцца ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі, ад места да места, напаўняе душы людзей добрае волі ўцехаю й радасьцяй. Бо-ж узапраўды багаслаўленая Ноч Раства Хрыстовага, калі залунаў на зямлі голас Сілаў Нябесных у гэтую Сьвятую Ноч. Дзева нарадзіла Сына. А Сынам гэтым Сам Бог, які зь бязьмернаю Сваёй любоўю да нас прыйшоў і прыняў людзкое цела ды нарадзіўся, як Чалавек. Нарадзіўся ў беднай пячэры ў бядзе й паніжэньні Той, што стварыў сьвет. Узапраўды сталіся дзівы дзіўныя! Уся прырода затаіла дыханьне, а людзі ўпалі на каленьні.

Зьвярнем толькі вочы нашыя да Бэтлеему. Там зорка зьзяе! Там Сьвятло нябеснае, якое абаграе душы чалавечыя. І ад таго часу гэтае Сьвятло Хрыстовае сваімі праменьнямі зьзяе па ўсім сьвеце ў гэтую сьветлую ноч. Зьзяе, як сьвечка ці як ялінка, прасьвятляе цемру жыцьця нашага, радуе й весяліць душы нашыя. У гэты Сьвяты Вечар абліччы нашыя прасьвятляюцца, аб бедах сваіх мы забываемся, выбачаем крыўды навет няпрыяцелям сваім, пачынаем усіх любіць і сэрцы нашыя напаўняюцца супакоем, зьяўляецца радасьць і надзея на вечны супакой на зямлі.

Багаслаўленая гэтая Ноч, у часе якой Хрыстос стаўся ня толькі Сынам Божым, але й Чалавекам, каб нас выратаваць! Хрыстос стаўся слабым Дзіцяткам, каб мы сталіся волатамі, нарадзіўся малым, каб мы сталіся вялікімі, стаўся бедным, каб нас узбагаціць, як Дзіця плакаў у часе Свайго Нараджэньня, каб мы перасталі плакаць, каб жылі ў супакоі й радасьці.

Таму й ня дзіва, што ў гэты дзень неба й зямля радуюцца й весяляцца разам з Ангеламі й натхненна сьпяваюць: Слава на вышынях Богу й на зямлі супакой людзям добрае волі!

Таму, Дарагія Браты й Сёстры, духова злучайцеся сяньня зь сіламі нябеснымі. Слаўма Госпада Бога, Які гэтак палюбіў нас, што Сына Свайго Адзінароднага паслаў нам, каб кажны, хто верыць у Яго, не загінуў, а атрымаў жыцьцё вечнае.

Усе просім Яго, Нованароджанага Хрыста Бога й Спаса нашага, каб сярод усіх нас на Бацькаўшчыне й на выгнаньні запанавала аснова навукі Хрыстовае, каб з паверхні зямлі шчэзла цемра людзкое варожасьці, ненавісьці, сваркі й войны.

Шмат разоў мянялася ўжо аблічча зямлі. На арэну жыцьця прыходзілі й зыходзілі шмат якія народы, падалі найбольшыя зямныя ўладары, зьнікалі розныя правадыры, якія часта пакідалі пасьля сябе руіны й горыч у сэрцах людзкіх, а тымчасам радасьць сярод людзей на Раство Хрыстовае па ўсім сьвеце й цяпер магутным рэхам адбіваецца ў песьнях калядных і ў сэрцах людзей добрае волі. Ува ўсіх мовах сьвету славяць Народжанага Хрыста добрыя людзі, у тым ліку й мы Беларусы імкнемся да вышэйшых мэтаў жыцьця й духова хочам злучыцца з Князем Міру, Дабра, Праўды й Свабоды!

Таму Сьвята Раства Хрыстовага й ёсьць Сьвятам Вялікае Надзеі. Хрыстос прыйшоў да нас зь Неба як чалавек, каб паказаць нам, што асноваю нашага шчасьлівага жыцьця зьяўляецца згода, супакой, міласэрдзе, любоў, бо праз гэта мы можам злучыцца з Богам, і што толькі такое жыцьцё можа даць нам радасьць і задавальненьне.

Нажаль, ня ўсе людзі жадаюць гэткага жыцьця, бо шмат хто палюбіў больш зло, цемру, чымся дабро, сьвятло й любоў. Аднак кажны год Раство Хрыстовае прыпамінае нам аб Ягонай Навуцы й аб надзеі на лепшую будучыню. І таму Раство Хрыстовае павінна быць дарагім і радасным для нас!

І трэба цьвёрда верыць, што прыйдзе чаканы час і народжаны Хрыстос Бог наш і Айцец будучага веку вывядзе нас зь цяперашняе цемры, страху, безнадзейнасьці й бязбожжа ды накіруе да дабра, сьвятла праўды й да збаўленьня. Дзеля гэтага-ж Хрыстос і прыйшоў на зямлю, каб узмоцніць у нашых душах надзею на Яго, як Усемагутнага Творцы, які што хоча, тое можа зрабіць.

Таму мы радасна й вітаем вас зь векавечным Сьвятам Раства Хрыстовага й Новым 1979 Годам! Сьпяшайцеся да Нованароджанага Хрыста! Сьпяшайцеся аддаваць хвалу Яму ў сваёй роднай БАПЦаркве! І Ён будзе заўсёды з Вамі, багаславіць Вас і паможа адрадзіцца да новага шчасьлівага, супакойнага й раднаснага жыцьця.

Гэта нашыя пажаданьні ў дзень Раства Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста. Радуймася, Любыя Браты й Сёстры, бо з намі Бог! Малемася да Яго, каб каляднаю радасьцяй напоўніліся сэрцы ўсіх людзей, асабліва нашых суродзічаў на Беларусі й па ўсім сьвеце разагнаных.

Ласка й супакой Госпада нашага Ісуса Хрыста, любоў Бога Айца й лучнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі цяпер і на векі вякоў. Амін!

**Каляды, Лета Божага 1978.**

**Пакорныя ў Богу**

**✠ Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Архіяпіскап Мікалай**

## БАПЦ НА КАНФЭРЭНЦЫІ КАНАНІЧНЫХ ЯПІСКАПАЎ

Міжцаркоўная арганізацыя, Сталая Канфэрэнцыя Кананічных Праваслаўных Япіскапаў у Амэрыках (СККПЯА), старшынём якое Прымат Грэцкае Праваслаўнае Архідыяцэзіі Паўночнае й Паўдзённае Амэрыкі Архіяпіскап Якавас, правяла 17-18 кастрычніка сёлета першую Нацыянальную Канфэрэнцыю Праваслаўных Япіскапаў, у якой прынялі ўдзел і герархі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы: Архіяпіскап Мікалай (Мітрапаліт Андрэй дзеля хваробы ня здолеў паехаць) і а. Рыгор Кістэнэр. У канфэрэнцыі разам зь шасьцьма япіскапамі Грэцкае Праваслаўнае Царквы прынялі ўдзел япіскапы, архіяпіскапы або мітрапаліты Альбанскае Праваслаўнае Дыяцэзіі Амэрыкі, Антыяхійскае Праваслаўнае Хрысьціянскае Архідыяцэзіі, Баўгарскае Ўсходняе Праваслаўнае Царквы, Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы, Румынскае Праваслаўнае Місіянерскае Архідыяцэзіі ў Амэрыцы, Сэрбскае Праваслаўнае Дыяцэзіі на Ўсходнюю Амэрыку й Канаду, Украінскае Праваслаўнае Царквы Амэрыкі, Украінскае Праваслаўнае Царквы ЗША, Украінскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы на Выгнаньні, Амэрыканскае Карпата-Рускае Праваслаўнае Грэка-Каталіцкае Дыяцэзіі ды Незалежнае Праваслаўнае Амэрыканскае Царквы.

Першая Нацыянальная Канфэрэнцыя Праваслаўных Япіскапаў, як падаецца ў прэсавым камунікаце, адбылася ў Джонстаўне ў Пэнсыльвэніі, у Карпата-Рускай дыяцэзіі (япіскап Джон Мартын). Мэтай канфэрэнцыі было пачаць касаваньне перашкодаў на шляху да поўнага эўхарыстычнага адзінства паміж цэрквамі, што належаць да СККПЯА, і тымі, што не належаць. Дзеля гэтага Архіяпіскап Якавас вызначыў Камісію Адзінства ў складзе Япіскапа Карпата-Рускае Царквы Джона Мартына (старшыня), Япіскапа Сіласа (ад Грэцкае Царквы) і Япіскапа Гэрмана (ад Праваслаўнае Царквы ў Амэрыцы).

Выступаючы на канфэрэнцыі, Архіяпіскап Якавас выказаў жаль з прычыны кананічнае разьеднанасьці праваслаўных цэркваў ды заклікаў „падаць рукі адзін аднаму ды йсьці разам наперад, прыймаючы з дарогі ўсе перашкоды". Усе ўдзельнікі канфэрэнцыі згадзіліся, што трэба рабіць далейшыя захады й праводзіць дыялёг у кірунку палепшаньня сучаснага стану.

Архіяпіскап Якавас назваў першую Нацыянальную Канфэрэнцыю Праваслаўных Япіскапаў „гістарычнай" ня гэтулькі сваймі беспасярэднімі вынікамі, колькі духам і жаданьнем перамагчы цяжкасьці. „Хрыстос між нас", — сказаў ён на заканчэньне свае прамовы.

Наступная гэткая канфэрэнцыя заплянаваная на 10 травеня 1979 году ў Нью Ёрку.

## НОВАЯ ЎПРАВА БГЦ

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры 16 верасьня сёлета была выбраная новая ўправа ў складзе: Ж. Навумчык — старшыня, М. Бахар — першы заступнік старшыні, А. Банкет — скарбнік, Б. Цупрык — сакратар; сябры: А. Мяжэвіч, В. Цярпіцкі, М. Палюховіч, Н. Арцюшэнка; рэвізыйная камісія: А. Занкавіч, Б. Плескачэўскі, С. Навумчык.

Першая ўправа БГЦ была сфармаваная ў жнівені 1972 году (старшыня — Барыс Шчорс), другая — у верасьні 1975 году (старшыня — Міхась Бахар).

## НОВЫ ПАПА ЯН ПАВАЛ ДРУГІ



22 кастрычніка сёлета заняў Пасад Сьвятога Пятра новы Папа, якім стаўся Кракаўскі Архіяпіскап Кардынал Кароль Вайтыла, прыняўшы сабе падвойнае імя Ян Павал Другі й падчыркнуўшы гэтым, што ён застаецца верным прынцыпам абодвых папярэдніх папаў. Ён нарадзіўся ў работніцкай сям'і, дый падчас мінулае вайны й сам працаваў хвабрычным работнікам, у гарадку Вадовіцэ блізка Кракава ў Польшчы ў 1920 годзе й зьяўляецца наймалодшым Папам у бягучым стагодзьдзі й 264-ым з чаргі. Ён стаўся сьвятаром у 1946 годзе ў веку 26 год, у 1958 годзе быў хіратанізаваны на япіскапа, у 1964 годзе быў назначаны архіяпіскапам Ккркава, а ў 1967 годзе атрымаў годнасьць кардынала.

У апініі цэлага сьвету ўважаецца, што выбар Кардынала Караля Вайтылы Рымскім Папам — важная гістарычная падзея. Папа Ян Павал Другі — гэта ня толькі першы няітальянскі Папа за апошнія 455 гадоў, але таксама першы славянскі Папа й першы спадкаемнік Сьвятога Пятра з краю, што знаходзіцца ў блёку камуністычных дзяржаваў.

У сваёй першай казані Папа Ян Павал Другі ўрачыста асьветчыў: „Мы хочам цяпер працягнуць руку й адкрыць нашае сэрца ўсім народам і людзям, якія прыгнечаныя якой-небудзь несправядлівасьцяй або дыскрымінацыяй ці гэта ў эканамічным, сацыяльным ці палітычным аспэктах жыцьця, ці ў пытаньні іхнай свабоды перакананьняў або пазбаўленыя належнай ім свабоды рэлігіі". Вось-жа да народаў сьвету, прыгнечаных несправядлівасьцяй і дыскрымінацыяй, належыць і Беларускі народ. І таму й Беларускі народ, ня менш за іншыя прыгнечаныя народы, мае ўсе асновы чакаць ад Ватыкану працягнутай яму рукі й адкрытага сэрца. Гэтае хрысьціянскае спагады, пацьверджанае канкрэтнымі фактамі й чынамі, чакае ад новага Папы ўвесь паняволены бязбожным камунізмам Беларускі народ.

Нажаль, побач з абнадзейваючымі сымптомамі, выклікаюць зразумелую трывогу й некаторыя супярэчныя ім асьветчаньні новага Папы. Гэтак як падала амэрыканская газэта „Дэйлі Ворлд" у нумары за 2 лістапада сёлета ў паведамленьні, азагалоўленым „Пасланьне Папы Брэжневу", Папа Ян Павал Другі сказаў: „Я выказваю шчырую ўдзячнасьць за віншаваньні, прысланыя вашай эксцэленцыяй, з нагоды майго выбару Папам. Я зычу дабрабыту (prosperity) **савецкаму народу** (падчыркнута намі — Рэд.) й міру ўсім народам на зямлі". Вось-жа гэтае абазначаньне падсавецкіх народаў як аднаго „савецкага народу" можа наводзіць на думку, што новы Папа таксама вызнае ведамую крэмлёўскую тэзу апошніх год, што быццам у Савецкім Саюзе заіснавала новая гістарычная супольнасьць — савецкі народ, і што тэза гэтая прадбачыць поўную русыфікацыю паняволеных Масквой нерасейскіх народаў, у тым ліку й нашага Беларускага народу.

У сувязі з гэтым мы ўважаем за мэтазгоднае паўтарыць гэтта нашую рэакцыю на асьветчаньне Папы Яна Паўла Першага пра ягоныя жаданьні абараняць „бедных і пакрыўджаных". У нумары 257 нашай газэты за верасень сёлета мы пісалі:

**„Хацелася-б спадзявацца, што Апостальскі Пасад у паняцьце „бедных і пакрыўджаных" укладзе пахрысьціянску шчодры зьмест, дадаўшы да традыцыйнага гэтаму паняцьцю сацыяльнага аспэкту, аспэкт культурны, а традыцыйную абмежанасьць гэтага паняцьця да сацыяльных нізоў тае ці іншае нацыі пашырыць на нацыянальныя меншыні ў складзе большых дзяржаваў (як прыкладам, Беларусь у СССР), што таксама церпяць ад духовае беднасьці й прыгнёту з боку цэнтралізаваных рэжымаў ды чакаюць зразуменьня й маральнага заступніцтва ад Апостальскага Пасаду. Асабліва гэта датычыцца да беларускіх рыма-каталікоў „бедных і пакрыўджаных" падвойна: ад бязбожнага маскоўскага рэжыму, а наўзьверх гэтага, будучы пазбаўленымі права на сваю вышэйшую рыма-каталіцкую герархію, — ад нястачы справядлівае ўвагі з боку Ватыкану".**

Нашыя пазыцыі, выказаныя ў прыведзеных словах, застаюцца ў гэткай-жа моцы й пры Папе Яну Паўлу Другім. Беларускі народ усіх веравызнаньняў мае права спадзявацца, каб у васобе новага Папы мець аўтарытэтнага свайго абаронька перад паняволеньнем чырвонай Масквой, паняволеньнем ня толькі рэлігійным, а й нацыянальным.

**Помнік Максіму Багдановічу** работы Сяргэя Вакара плянуюць паставіць на адным із сквэраў Менску да 90-годзьдзя ад нараджэньня паэты, што споўніцца ў 1981 годзе. („Голас Радзімы" №43, 26. X. 78).

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 10.00 yearly.
„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАМАГЧЫ А. КРУЦЬКУ ПРЫЕХАЦЬ Ў ЗША!

Дзяржаўны Дэпартамант ЗША, некаторыя сэнатары й кангрэсмэны ўзяліся разгледзець справу дапамогі Аляксандру Круцьку перабрацца зь Беларусі ў Амэрыку да свае дачкі Галіны Харавец, якая жыве ў Саўт Рывэры. Аляксандру Круцьку 71 год, ён 18 гадоў адседзіў у савецкіх турмах і канцлягерах. Цяпер ён жыве ў вёсцы Цынкавічы Каловіцкага сельсавету Вялейскага раёну. Пасьля таго, як Аляксандар Круцько пачаў рабіць стараньні выехаць у Амэрыку, куды яго выклікае дачка, мясцовыя савецкія ўлады пачалі шантажаваць яго й пагражаць забраць яго ў „шпіталь" (псыхіятрычную бальніцу?), куды ён зусім ня хоча йсьці.

Беларуска-амэрыканская грамадзкасьць павінна зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы Аляксандру Круцьку ўжыцьцёвіць сваё права жыць на старасьці гадоў із сваімі дзецьмі ў Амэрыцы. Дапамога гэтая можа быць выказаная зваротам увагі сваіх кангрэсмэнаў на пагвалчаньне ў Савецкай Беларусі права чалавека.

## "СПРАВА АЎГЕНА БУЗІНЬНІКАВА"

### (ЯШЧЭ АДЗІН БЕЛАРУСКІ ІНШАДУМЕЦ)

Паводля выдаваных радыям „Свабода" „Матарыялаў Самвыдавецтва" (выпуск 36-78 з 27 кастрычніка 1978 г.), сёлета 18 траўня ў г. Сьветлагорску Гомельскае вобласьці быў арыштаваны Аўген Бузіньнікаў, 1938 году нараджэньня, работнік трэсту Запхімбудмантаж. Пра гэта падаецца ў ананімным дакумэньце пад заг. „Справа Аўгена Бузіньнікава".

На кватэры Бузіньнікава паліцыя зрабіла ператрус і забрала ягоныя асабістыя нататкі, лісты, запісныя кніжкі. Справу Бузіньнікава вядзе Гомельская абласная пракуратура. Улады абвінавачвалі Бузіньнікава спачатку ў антысавецкай агітацыі, а пасьля перакваліфікавалі абвінавачаньне на „пашыраньне выяўна хлусьлівых выдумак, што кампрамітуюць савецкі дзяржаўны й грамадзкі лад". Бузіньнікава трымаюць у абласной сьледчай турме Гомеля. Ад 20 да 30 чырвеня сёлета ён быў на псыхіятрычнай экспэртызе ў Гомельскай псыхіятрычнай бальніцы, але, як відаць, яго прызналі за здаровага.

У справе Бузіньнікава дапытвалі ягоных суслужыўцаў, работнікаў Брачэню й Майсеева, а таксама цётку ягоную З. Манкевіч. Бузіньнікаву ставіцца ў віну: а) ліставаньне з іншадумцамі й падаваньне ў лістох да іх вестак, што зьнеслаўляюць савецкі лад; б) слуханьне замежных радыяперадачаў і пашыраньне іхнага зьместу; в) ягоная, быццам-бы, просьба перадрукаваць працу ўкраінскага іншадумца Міколы Рудэнкі, паэты, заснавальніка ўкраінскага камітэту судзеяньня ўжыцьцяўленьню Гэльсынкаўскага пагадненьня, засуджанага сёлета на сем гадоў канцлягеру й пяць гадоў ссылкі.

Аўген Бузіньнікаў быў суджаны ўжо два разы. Першы раз — у 1956 годзе, у 18-гадовым веку, за спробу перайсьці дзяржаўную мяжу ў раёне г. Батумі ў Грузіі. Быў ён засуджаны тады на тры гады. Па звальненьні з турмы жыў у г. Навачаркаску, працаваў гружчыкам.

У лютым 1966 году на кватэру Бузіньнікава зьявілася міліцыя, шукаючы, быццам-бы, крадзеных рэчаў. Паколькі ў іх ня быў аформлены ордэр на ператрус, Бузіньнікаў пачаў пратэставаць. Тады міліцыянэры накінуліся на яго й пачалі біць яго. Бузіньнікаў, бароначыся, схапіў паляўнічы тапорык ды выгнаў іх з хаты, лёгка параніўшы пры гэтым трох міліцыянэраў. Ён быў засуджаны йзноў на 12 гадоў суровага лягернага рэжыму. На судзе адчуваўся палітычны ўхіл працэсу, паколькі пракурор трымаў увагу на выявах у Бузіньнікава буржуазнае ідэялёгіі.

У зьняволеньні Бузіньнікаў прабыў 9 гадоў, яго звольнілі 21 лютага 1976 году на просьбу аб дараваньні, пададаную сваякамі. Апошнім часам ён жыў у Сьветлагорску, працуючы сьлёсарам-мантажнікам.

У студзені 1977 году Бузіньнікаў наведаў у Маскве Андрэя Сахарава, ліставаўшыся зь ім раней. Пасьля гэтага органы КДБ наладзілі сачэньне за Бузіньнікавам, спынілі даваньне камандыровак у справах працы, ціраз выклікалі на абсьледваньне да псыхіятры.

Бузіньнікаў пісаў таксама лісты А. Гінзбургу (цяпер зьняволенаму), В. Някіпелаву (зь якім ліставаўся й Міхал Кукабака) ды іншым. Відаць, гэтае ліставаньне, перахопленае органамі КДБ, і ставіцца цяпер у віну Аўгену Бузіньнікаву.

Гэткі вось зьмест ананімнага дакумэнту, напісанага неўзабаве пасьля 30. VI. 1978 г. ды перадрукаванага цяпер з фатакопіі арыгіналу ў выданьні радыя „Свабода" „Материалы Самиздата" пад нумарам 3362.

## МОЛАДЗЬ ЗЬ БЕЛАРУСІ Ў „ЛЕВАЙ АПАЗЫЦЫІ"

Як падала за агенцтвам Рэйтэра газэта „Нью Ёрк Таймс" (15 лістапада 1978), у Ленінградзе быў арыштаваны 20-цігадовы студэнт Аляксандар Скобаў, які арганізаваў там спасярод студэнтаў Ленінградзкага ўнівэрсытэту групу маладых іншадумцаў пад назовам „Левая апазыцыя". Аляксандар Скобаў заснаваў таксама „камуну"-дом, у якім моладзь зьбіралася на абмяркоўваньне мастацтва, палітыкі й філязофіі. „Камуна" гэтая, як падае „Нью Ёрк Таймс", праіснавала паўтара гады й прыцягнула была да сябе моладзь зь Ленінграду, балцкіх рэспублікаў, Беларусі й Малдавіі, пакуль яе паліцыя не зачыніла ў верасьні сёлета.

## АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

5 лістапада сёлета ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру пры Атлянтык эвеню 401 у Брукліне адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны агульны сход сяброў Ньюёркаўскага Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Сход адчыніў і сьцьвердзіў вымаганы статутам кворум старшыня ўступаючай Управы Мікола Кунцэвіч. За старшыню сходу быў абраны Гіпаліт Паланевіч, за сакратара — Аляксандар Міцкевіч.

Справаздачу зь дзейнасьці Аддзелу зрабіў сп. М. Кунцэвіч. Ад імя Управы Аддзелу ён прыймаў удзел у 17-ым Кангрэсе БАЗА ў Кліўленьдзе ў пачатку верасьня 1977 году. 11 сьнежня летась Управа зладзіла сьвяткаваньне 57-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня. Пасьля Божае Службы й Паніхіды ў катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па загінулых гэроях адбылася ўрачыстая акадэмія з рэфэратам д-ра Вітаўта Кіпеля. 18 сьнежня 1977 году старшыня Управы й колькі сяброў Аддзелу прынялі ўдзел у канфэрэнцыі Рады Дырэктароў арганізацыі Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў, на якім выступілі ведамыя ў Нью Ёрку расейскія дысыдэнты Ігар Сінявін і Пётр Балдыроў з паведамленьнем аб заснаваньні імі расейскай дэмакратычнай арганізацыі „За Расею без Калёніяў".

У сёлетнім годзе Управа Аддзелу супольна з Галоўнай Управай БАЗА, Аддзелам у Нью Джэрзі й Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскай Моладзі наладзілі ўрачыстую акадэмію на 60-ыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка з прынагодным рэфэратам галоўнага рэдактара „Беларуса" д-ра Станіслава Станкевіча й старшыні Галоўнай Управы АБАМ Юркі Азаркі ды мастацкай праграмай. 23 ліпеня сёлета Управа прыймала ўдзел у Тыдні Паняволеных Народаў у Нью Ёрку пры Статуі Свабоды. Заступнік старшыні Управы Аддзелу Ф. Бартуль прыймаў удзел у 13-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, што адбылася напачатку верасьня сёлета ў Таронце. Фінансавую справаздачу зрабіў скарбнік Аддзелу Валянцін Міцкевіч.

Справаздачу Рэвізыйнае Камісіі зрабіў ейны старшыня д-р Вітаўт Тумаш. Пасьля дыскусыі над справаздачамі сход прызнаў уступаючай Управе абсалюторыю з падзякаю.

Пасьля дыскусіі сход пастанавіў даручыць старой Управе Аддзелу пад старшынствам М. Кунцэвіча й старой Рэвізыйнай Камісіі пад старшынствам д-ра В. Тумаша выконваць іхныя функцыі да наступнага агульнага сходу, які будзе скліканы ў траўні 1979 году дзеля выбару дэлегатаў на 18-ы Кангрэс БАЗА.

# УРАЖАНЬНІ З ПАДАРОЖЖА Ў ПОЛЬШЧУ

Самалёт Jumbo Jet 747 Брытанскай авіяліні падняўся ў прастор. Пасьля інструкцыяў, як захавацца ў выпадку аварыі, як надзімаць ратунковую камізэльку, зь якой давялося-б ляцець уніз, у акіян, былі пададзеныя напіткі дзеля падтрыманьня настрою. Ляцім у Лёндан, а адтуль у Варшаву. У гэтым годзе мой бацька скончыў 90 гадоў свайго жыцьця, брат адсьвяткаваў свае 50-ыя ўгодкі, а й я ўзброілася сякімі-такімі датамі й ляту, каб хоць некалькі тыдняў правесьці з роднымі, зь якімі разлучыў мяне лёс.

Пасьля цудоўных амэрыканскіх аэрапортаў лёнданскі паказаўся старым, раськінутым па вялікім прасторы, у той час, як варшаўскі выдаецца малым, пустым, бяз жыцьця, з абмежаваным рухам самалётаў польскай авіяліні „Лёт", брытанскай „Брытыш Айрвэйс", амэрыканскай „Пан-Ам" і савецкай „Аэрофлот". Абслуга аэрапорту вайсковая, бо, як кажуць некаторыя Палякі, „Пожондэк мусі быць". Пасьля праверкі пашпартоў ідзём атрымліваць багаж. Мой, аказваецца, астаўся ў Лёндане й трэба наступных пару дзён правесьці ў польскай сталіцы, чакаючы яго.

Варшава, пасьля ейнага камплетнага зьнішчэньня падчас паўстаньня ў 1944 годзе, загойвае раны вайны, разбудоўваецца й набірае выгляду вялікага мадэрнага гораду. Шмат зелені, паркаў, сквэраў, абсаджаных чырвонымі розамі. Некалькі новых высокіх хмарачосаў, некаторыя фінансаваныя й эксплятаваныя на працягу пэўнага часу Швэцыяй. Дом Культуры, „дар" Савецкага Саюзу Польшчы, надалей узвышаецца над горадам і надалей ненавіджаны Палякамі. Цэлыя кварталы новых камплексаў жыльлёвых будынкаў вельмі таннай канструкцыі. Абмежаваныя жыльлёвай плошчай кватэры цесныя, без камфорту, часта бяз ваннаў, а ў прыбіральнях у такім новым „мадэрным" доме яшчэ надалей трэба пацягваць за ланцужок. Кажны мроіць аб лепшай, мадэрнейшай кватэры, якія маюць будавацца ў будучыні, але тымчасам людзі жэняцца, дзеці родзяцца, растуць, а мроі застаюцца мроямі. У цэлым горадзе нельга знайсьці хварбы, каб памаляваць гэтую кватэру, бо, быццам, польскай хварбай малююць Маскву, якая рыхтуецца да Міжнароднай Спартовай Алімпіяды, што мае адбыцца ў 1980 годзе.

На кажным кроку можна бачыць мэмарыяльныя таблічкі, якія напамінаюць забітых падчас паўстаньня. Сьвежыя кветкі пад таблічкамі кажуць аб тым, што народ шануе памяць сваіх гэрояў. У гадавіну паўстаньня 1-жа жніўня ўся Варшава прыймае ўдзел у ўрачыстых набажэнствах у касьцёлах, а моладзь трымае ганаровую варту пры гэтых таблічках. Чытаючы іхны зьмест, міжвольна думка ляціць да магілаў нашых нацыянальных гэрояў „. . . колькі іх і дзе ляжыць, невядомых, няпрызнаных, не аплаканых нікім, толькі ў полі адзінокіх ветру посьвістам пустым".

На левым беразе Віслы стаіць вялізарны помнік савецкім гэроям, якія, быццам, загінулі ў вызваленьні Варшавы. Які зьдзек! Кажны варшавяк ведае, што савецкая армія 6 месяцаў стаяла на другім беразе Віслы й чакала, каб прыйсьці ў Варшаву ўжо на папялішча.

У той час, як у Амэрыцы сьвятыні пусьцеюць, амэрыканская моладзь, здэмаралізаваная залішняй свабодай, духова апустошваецца, у Польшчы касьцёлы перапоўненыя вернікамі старэйшага й малодшага пакаленьня. У Італіі, цэнтры каталіцкага хрысьціянства, пад бокам Ватыкану, бушуюць камуністычныя Чырвоныя Брыгады, тэрарысты, а ў Польшчы, пры бязбожнай камуністычнай уладзе Палякі засталіся верныя сваёй царкве. Наведала я праваслаўны сабор Сьв. Марыі Магдалены на Празе. Вернікаў мала. Старэйшыя жанчыны ў хустках на галаве адбіваюць паклоны перад аналоем і абцалоўваюць іконы. Трохі турыстых із заходняга й усходняга сьвету (пазнаць можна па вопратцы). Цудоўны царкоўны хор настройвае да малітвы.

Польшча за апошнія 10 гадоў зматарызавалася. На вуліцах і дарогах Фіяты, Сырэнкі, Палянэзы й шмат іншых самаходаў із суседніх краінаў. Цяпер Палякам свабодна можна ехаць самаходамі па Усходняй Нямеччыне. Таму Саветы старанна замацоўваюць ахову граніц паміж Усходняй і Заходняй Нямеччынай, каб, барані Божа, ніхто не падаўся спакусе выбраць свабоду. У Амэрыцы, дзе, быццам, высокі працэнт беспрацоўных, вуліцы гарадоў пустыя, затое ў Варшаве падчас працоўных гадзін усюды поўна народу. Аўтабусы, трамваі, цягнікі, тэатры перапоўненыя. Начамі спакойна можна хадзіць вуліцамі гораду, жулікаў і прастытутак ня відаць, але горад пусты. На вулічным плякаце: „Алькаголь — твой вораг нумар адзін" нехта дапісаў: „Ну то лі яго ў морду"! І п'юць шмат, не зважаючы на 100%-ную падвышку цэнаў на алькагольныя напіткі.

У кнігарні, дзе былі выстаўленыя прыгожыя кнігі савецкага выданьня ў ангельскай мове пра Літву, Украіну, Расею, Маскву, Кіеў, Ленінград, навет Пскоў, пра Беларусь ці Менск кнігаў ня было, бо, быццам, як мне сказалі, ніхто імі ня цікавіцца (ня верыцца гэтаму! — Рэд.). Тое самае ў крамах з кружэлкамі.

Пагода не паслужыла, бо на працягу амаль цэлага жніўня было холадна й дажджліва. Польскія ПГР-ы (дзяржаўныя зямельныя гаспадаркі), пабудаваныя на тым самым прынцыпе, што й савецкія саўгасы, змарнавалі тысячы гэктараў збожжа, не сабраўшы яго ў час. Польскага селяніна абурае гэткае гаспадараньне, але ніяк памагчы ня можа. Мяса не хапае, даўгія чэргі, бо, як кажуць, гэта мы тут у Амэрыцы зьядаем польскія шынкі. Не зважаючы на нараканьні, польскі селянін усё-ж жыве лепш, чымся перад вайной. Ён зьяўляецца фундамантам дзяржаўнае гаспадаркі, а не абшарнік, як калісьці.

У Сілезіі знаёмыя лёзунгі: „Павяліч сваю прадукцыю на карысьць дзяржавы", „Партыя й народ — гэта адно" й г. п. І вуглякопы стараюцца дабіваць вугаль кажны дзень у годзе, які пасьля ладуецца на таварныя цягнікі й адсылаецца на Ўсход. Дзеля прысьпяшэньня й аблягчэньня гэтай акцыі чыгуначная лінія із Сілезіі да граніцы Савецкага Саюзу пашыраецца. Кажны, аднак, баіцца пра гэта голасна казаць, каб, барані Бог, не зрадзіць дзяржаўнае „тайны" й ня быць вінаватым.

Урадаўцам публічнае абслугі раіла-б прайсьці курс добрых манераў. Гэтыя людзі выконваюць свае абавязкі без найменшага энтузіязму, зьнеахвочаныя, ня ўслужлівыя, панурыя, бо, як тут кажуць: „Чы сень стоі, чы сень лежы — два тысёнцэ сень належы".

Не зважаючы на антыамэрыканскую прапаганду ў польскім радыі й тэлевізіі, кажнаму хацелася-б паехаць у Амэрыку й самому пераканацца, што ўсё тут інакш. Хацелася-б паглядзець на амэрыканскія дамы, самаходы, крамы й, бязумоўна, пабачыць гэтых „бедных" галодных нэграў, якіх мы тут, быццам, лінчуем, эксплятуем і сэгрэгуем(?!). Набраць мех даляраў і, вярнуўшыся назад, купіць дом, самаход, дываны, югаслаўскія мэблі... Аб прыватнай ініцыятыве ніхто ня думае, бо магчымасьці для гэтага вельмі сьціплыя. Хіба трэба быць „бадыляжэм" (агароднікам) і тады можна зарабляць шмат грошай, дастаўляючы ў гарады гародніну.

Маладое пакаленьне, ужо адукаванае ў Народнай Польшчы, ахвотна (для карыеры) ўступае ў рады камуністычнай партыі й „будуе" новае заўтра — камунізм. За гэта яны маюць прывілеі: лепшую кватэру, закрыты распадзел тавараў, ськіраваньні на найлепшыя курорты й магчымасьці службовых выездаў заграніцу. Гэтыя людзі, ужо нашпікаваныя партыйнай прапагандай, становяцца патрыётамі камунізму й Савецкага Саюзу, а не свайго краю. Паводля іх, канцэнтрацыйныя лягеры ў Савецкім Саюзе — гэта выдумка Салжаніцына й амэрыканскай прапаганды.

На заходніх, г. зв. „одзысканых" землях Польшчы жывуць у бальшыні перасяленцы із Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны, якія ў 1945 і 1955 гадох перасяліліся ў Польшчу, ведаючы, што нясе з сабой расейская камуністычная ўлада. Украінцы, пераважна Лэмкі з Карпатаў, былі перасяленыя прымусова. Праязджаючы праз паняменскія вёскі можна ўбачыць беларускі быт, беларускіх бабуляў, твары беларускіх дзяцей, а на могілках знаёмыя беларускія прозьвішчы спад Маладэчына, Глыбокага, Ашмянаў, Навагрудка. Шмат якія з гэтых перасяленцаў часта езьдзяць на бацькаўшчыну, каб адведаць сваіх родных або сьцягнуць іх да сябе ў госьці. Спаткала я настаўніцу зь Менску, Беларуску, якая ні слова ня ўмее сказаць пабеларуску. Я яе пытаю, як-жа яна можа вучыць беларускіх дзяцей, ня ведаючы беларускай мовы? „— Я ўчу іскусства" — адказвае. Яна казала, што беларускія вёскі пусьцеюць, бо старэйшыя адыходзяць на той сьвет, а моладзь уцякае ў гарады, дзе вучаць іх там такія настаўнікі, як яна сама. Чым найбольш на Беларусі запоўненыя крамы? — гарэлкай і „чарнілам" (таннае віно). Хлеба хапае. Зь нястачы іншага корму, людзі кормяць хлебам карову ці сьвіньню (хіба гэным закупленым у Амэрыцы?). Беларус заўсёды адзначаўся сваймі высокімі маральнымі якасьцямі. Цяпер навет і гэта зьнішчана. Свабодная любоў, разводы па 3-4 разы, алькагалізм — на парадку дня. Відавочна гэты духовы занепад ідзе ў пары з тэхнічнымі дасягненьнямі, як „лямпачка Ільліча" (электрычнасьць), матарызацыя, палёты ў космас.

Жнівень у Польшчы — месяц Інтэрнацыянальных Фэстываляў Песьні й Танцаў у гарадох Зелёна Гура й Сопоты. Зьяжджаюцца тады ансамблі розных сатэлітных краінаў, а таксама ансамблі зь Беларусі, якіх на станцыі ў Збоншынку вітаюць прадстаўнікі гарадзкой управы, школьная моладзь з аркестрай і сьцягамі БССР і, бязумоўна, ансамблі некаторых афрыканскіх краёў. Месяцаў дзевяць пазьней польскія дзяўчаткі родзяць прадстаўнікоў „брацкай" чорнай расы...

Калі вы едзеце ў Польшчу з амэрыканскімі далярамі, кажны распластаецца перад вамі з услугамі. Падарожжа й цэлая такая эскапада каштуе даволі шмат, але, каб пабачыць лясы, нівы, мэндлікі збожжа, буслаў, паслухаць знаёмы сьпеў птушак, гутаркі людзей, спаткацца з роднымі, а цяпер падзяліцца з вамі сваймі ўражаньнямі — усё гэта варта.

Бацьку майму зрабілі вялікае прыняцьце з вялізарным тортам і 90 сьвечкамі. Нагаварыліся, напланаваліся й разьехаліся кажны ў свой бок із сумам у сэрцы, што можа гэта сустрэча была апошняй.

У Лёндане прагавіта накінулася на газэту „Лёндан Таймс" і „Гэралд Трыбюн", каб даведацца, што дзеялася ў сьвеце падчас маёй адсутнасьці. У той час, як на варшаўскім лётнішчы тэмпэратура была 7°+С, дома я акунулася ў сваю 95°+F.

**Турыстка**

### ЧЭХАСЛАВАЦКАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У нядзелю 29 кастрычніка сёлета ў Лёс Анджэлесе перад галоўным будынкам Гарадзкой Управы адбылася ўрачыстая праграма падняцьця чэхаславацкага сьцягу, прысьвечаная 60-ым угодкам абвешчаньня незалежнасьці Чэхаслаўскай Рэспублікі ў 1918 годзе. Урачыстасьць была зарганізаваная Чэхаславацкай Радай Амэрыкі. Ад імя іншых паняволеных народаў прывітаў прысутных д-р Альгерд Клейнот. Сярод гасьцей быў і беларускі прадстаўнік сп. Часлаў Найдзюк.

**Н.**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# АМЭРЫКАНСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ПАДТРЫМОЎВАНЬНЯ СЛАВЯНАВЕДЫ



**Зьлева направа: Д-р В. Кіпель, Гэлена Кананчук, Інж. К. Калоша на фоне выстаўкі беларускага народнага мастацтва ў гор. Калумбус**

У кастрычніку сёлета ў горадзе Калумбус, у штаце Огаё, адбылася чарودная дзясятая канфэрэнцыя Амэрыканскае Асацыяцыі падтрымоўваньня славянаведы. Гэтая Асацыяцыя славянаведаў — адна з найбольшых арганізацыяў навукова-дасьледнага профілю ў Амэрыцы.

Заснаваная Асацыяцыя ў 1948 годзе. Цяпер яна налічвае колькі тысячаў сваіх сяброў. На сёлетняй канфэрэнцыі ў Калумбусе было больш за тысячу асобаў. Да Асацыяцыі належаць індывідуальна дасьледнікі славянаведы, а таксама сябрамі Асацыяцыі могуць быць розныя дасьледныя установы, інстытуты й унівэрсытэты. Гэтак у сёлетнім годзе да Асацыяцыі належаць 62 унівэрсытэты й больш за 25 розных інстытутаў, як прыкладам, Польскі Інстытут Амэрыкі, Асацыяцыя Харвацкіх Дасьледнікаў, Асацыяцыя Дасьледваньня Ўсходняе Эўропы ды даўгі сьцяг іншых із сумежнымі зацікаўленьнямі арганізацыяў.

Мэта Асацыяцыі — падтрымоўваць вывучэньне славянскіх народаў, іхнае мовы, гісторыі, культуры, эканомікі й сучаснага стану. Ужыцьцяўляецца праграма гэтага шырокага дасьледваньня перш-наперш праз унівэрсытэты, падтрымоўваньне паасобных навукоўцаў і навуковых праектаў ды праз арганізацыйную структуру самое Асацыяцыі, у якой на сяньня дзейнічаюць розныя сэкцыі, што маюць беспасярэдня сувязь з унівэрсытэтамі й паасобнымі навукоўцамі. Значная ўвага ў дзейнасьці Асацыяцыі даецца накіроўваньню, заахвочваньню й падтрымоўваньню славянаведных студыяў на ўнівэрсытэтах сярод студэнцкае моладзі, а апошнім часам праз друкаваньне дапаможнікаў для сярэдніх школаў ды пашырэньне дасьледваньняў славянскага сьвету ў сярэдніх школах сярод вучняў і настаўнікаў.

Асацыяцыя мае сваё выдавецтва, якое, апрача пэрыядычных выданьняў, штогоду або друкуе беспасярэдня, або падтрымоўвае выданьне розных манаграфіяў на славянаведныя тэмы. Асацыяцыя таксама падтрымоўвае распрацоўваньне розных славянаведных тэмаў на ўнівэрсытэтах шляхам шырокае праграмы стыпэндыяў і фінансавых дапамогаў студэнтам славянаведы.

Галоўныя пэрыядычныя выданьні Асацыяцыі ў сёлетнім годзе гэткія: "Slavic Review" („Славянскі Агляд") — квартальны часапіс абыймае ад 150 до 200 бачынаў, 37-ы нумар якога выходзіць сёлета. Другое важнае пэрыядычнае выданьне Асацыяцыі — гэта тыднёвы бюлетэнь „Агляд савецкага друку", які выдаецца ад 1949 году. Гэты бюлетэнь анатоўвае больш за 50 савецкіх газэтаў і часапісаў, у тым ліку й газэту „Советская Белоруссия" ды друкуе штоквартальна асобны тэматычны паказьнік матар'ялаў. Тэматыка гэтага бюлетэню вельмі шырокая, але асноўная ейная скіраванасьць на гуманітарныя навукі, эканоміку й гісторыю. Асацыяцыя друкуе таксама месячны бюлетэнь для сваіх сяброў, у якім пераважна даецца хроніка дзейнасьці Асацыяцыі ды міжнародныя навіны, цікавыя для славянаведаў.

Апрача гэтага, Асацыяцыя выдае пэрыядычна гадавік „Амэрыканская Бібліяграфія Славянскіх і Ўсходнеэўрапейскіх Дасьледваньняў" — асноўны амэрыканскі ўлікавы бібліяграфічны паказьнік артыкулаў на тэмы славянскіх дасьледваньняў ды таксама гадавы даведнік сяброў Асацыяцыі, у якой, дарэчы, ёсьць цімала навукоўцаў беларусаў, што працуюць у розных унівэрсытэтах і іншых дасьледных установах Амэрыкі. Выдаюцца таксама гадавыя, анатаваны паангельску, паказьнікі да газэты „Правда" ды іншыя дапаможныя даведнікі.

Асноўны агляд дзейнасьці ды апрацоўваньне плянаў будучае дзейнасьці робіцца на гадавых канфэрэнцыях Асацыяцыі. Сёлетняя канфэрэнцыя ў Калумбусе, што адбывалася ад 12 да 15 кастрычніка, была асабліва людная. На канфэрэнцыі было зарэгістравана больш за 1000 удзельнікаў, а праца праходзіла ў 95-ці сэкцыях, больш за дваццаць адміністрацыйных паседжаньнях ды дзясятку пленарных сэсіяў. Агулам на канфэрэнцыі было прачытана каля 400 дакладаў.

Вельмі шырокая была й тэматыка канфэрэнцыі. Вялікая ўвага была дадзеная на канфэрэнцыі аналізу палітычнага стану ў усходня-эўрапейскіх краёх, асабліва за мінулае дзесяцігодзьдзе ад часу акупацыі Чэхаславаччыны савецкімі войскамі ў 1968 годзе. Неаднаразова было адзначанае штораз бліжэйшае супрацоўніцтва, асабліва ў галіне культуры й навукі між усходня-эўрапейскімі краямі й Заходняй Эўропай. У дакладах на палітычныя тэмы рабіўся агляд камуністычнае тактыкі й за межамі Эўропы: у Анголе, Паўдзённай Амэрыцы й Азіі. Некалькі дакладчыкаў праналізавала нарастаньне напружаньня між Савецкім Саюзам і Кітаем. Блізка сорак дакладаў у большай ці меншай меры былі прысьвечаныя ці занакралі стан і праблемы разьвіцьця й дасьледваньня моваў, у тым ліку й мовы беларускае. У вадным з дакладаў было адзначана, што на Захадзе трэба выдаць ангельска-беларускі й беларуска-ангельскі слоўнікі, бо ані ў плянах Акадэміі Навукаў БССР, ані ў плянах іншых беларускіх выдавецтваў замежнаманых беларускіх слоўнікаў друкаваць не прадбачваецца, а дасьледваць беларускую мову й літаратуру ангельскаму навукоўцу бяз гэткага слоўніка бадайшто немагчыма. Дарэчы, слоўнік гэткі рыхтуецца цяпер да друку ў Канадзе.

Значная ўвага ў дакладах была дадзеная дасьледваньню гістарычнае мовы Вялікага Княства Літоўскага. Шмат дакладаў было на тэму гісторыі ўсходня-славянскіх народаў, іхнага паходжаньня ў сьвятле новых дадзеных навукі, фармаваньня дзяржаўнасьці Беларусі, Украіны й Расеі. У дакладах на літаратурныя тэмы разглядалася творчасьць расейскіх клясыкаў Льва Талстога, Пушкіна, Ганчарова, а таксама агульныя тэмы, як футурызм, праблемы фэльетоннага жанру й інш. У сэкцыі мастацтваведы быў прачытаны шэраг дакладаў пра паасобных мастакоў, як Даўжэнка, Казімер Малевіч, а таксама пра мастацкія плыні ды калекцыі мастацтва ў Савецкім Саюзе. Дзясяткі дакладаў былі на тэмы эканамічнага планаваньня як у Савецкім Саюзе наагул, гэтак на Ўкраіне й Беларусі ў прыватнасьці, на тэмы транспарту, эканамічнага капіталаўкладаньня, структуры эканамічна-адміністрацыйных установаў ды іншыя.

Асабліва шырокую аўдыторыю мелі даклады на тэмы бібліятэказаведы, архіваў ды збору й пашырэньня навуковае інфармацыі. Асобная сэсія была прысьвечаная праблемам набываньня славянскіх кніжак, перш-наперш беларускіх і украінскіх.

На канфэрэнцыі было вельмі шмат прадстаўнікоў з Вашынгтону. Было прачытана колькі дакладаў выдатнымі ўрадаўцамі, а асноўны даклад аб заданьнях і плянах дасьледваньняў Савецкага Саюзу й Усходняе Эўропы зрабіў дырэктар аддзелу Кадраў Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША, былы пасол Задзіночаных Штатаў Амэрыкі ў Румыніі Гары Барнс.

Наступная адзінаццатая канфэрэнцыя Асацыяцыі адбудзецца ў кастрычніку 1979 году на славутым Ейльскім унівэрсытэце ў штаце Канэктыкэт.

Гадавыя канфэрэнцыі Асацыяцыі прыцягваюць штораз большую ўвагу сярэдняга Амэрыканца ды палітычных дзеячоў Амэрыкі, бо канфэрэнцыі гэтыя ўсё больш становяцца выдатным форумам навуковых кантактаў і супрацоўніцтва. Дарэчы, сёлета губэрнатар штату Огаё Джэймс Родс абвесьціў тыдзень ад 9 па 15 кастрычніка Тыднем Спадчыны Ўсходнеэўрапейскіх Народаў, у правядзеньні якога прынялі ўдзел навуковыя, адміністрацыйныя й палітычныя установы, бібліятэкі й школы, паасобныя гарады, а таксама было аддадзена шмат увагі рэкляме й спадчыне Беларусаў, Украінцаў, Расейцаў, Палякаў і іншых славянскіх народаў.

На канфэрэнцыі беларуская тэматыка закранулася больш чымся ў дзесятку дакладах. Пададзеныя ў праграме канфэрэнцыі даклады, што беспасярэдня й адмыслова датычылі да Беларусі былі гэткія: У сэкцыі, што займалася пытаньнем магчымасьцяў і крыніцаў дасьледваньня нерасейскіх рэспублікаў Савецкага Саюзу — рэфэрат д-ра Вітаўта Кіпеля зь Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэкі аб магчымасьцях і наяўнасьці матар'ялаў у амэрыканскіх бібліятэках для гістарычнага вывучэньня Беларусі. У сэкцыі Славянскае Лексыкаграфіі быў даклад Тэрэзы Олт з Карнэльскага ўнівэрсытэту ў штаце Нью Ёрк пра стан вывучэньня беларускае і ўкраінскае лексыкаграфіі. У сэкцыі, што займалася нацыянальным пытаньнем ды размеркаваньнем рэсурсаў і капіталаўкладаў у Савецкім Саюзе. Увага беларускай праблеме была дадзеная ў сэкцыях, што займаліся пытаньнем дасьледваньня нацыянальных меншыняў у даваеннай Польшчы, размеркаваньня й набыцьця ды разбудовы славянскіх кніжных калекцыяў у амэрыканскіх унівэрсытэцкіх бібліятэках, у сэкцыі, што займалася пытаньнем нярусыфікацыі сацыялістычных рэгіянальных сыстэмаў, у дакладзе аб зьменах у прафэсійных кадрах у 15-ёх савецкіх рэспубліках, а таксама ў радзе літаратураведных рэфэратаў ды ў рэфэратах, прысьвечаных аналізу архіўных дакумэнтаў Усходняе Эўропы ў Задзіночаных Штатах Амэрыкі.

У дакладзе Тэрэзы Олт, пасьля падрабязнага аналізу лінгвістычных дасьледваньняў у БССР, быў дадзены агляд слоўнікавае працы ў БССР ды на матар'ялах выда-

(Заканчэньне на 7-ай бачыне)

## ТРЭЙЦЯЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

адбудзецца ў Адэляйдзе 5-9 студзеня 1979 году паводля правізарычна запрапанаванай наступнай праграмы:

**5 студзеня — пятніца:** Прыезд і закватараваньне.

**6 студзеня — сыбота: 10-я гадзіна нараніцы ў Беларускай Залі:** Афіцыйнае адчыненьне Сустрэчы; рэфэрат; прывітаньні; справаздачы Фэдэральнай Рады й арганізацыяў.

**7-я гадзіна ўвечары:** Божая Служба.

**8-я гадзіна ўвечары:** Куцьця — супольная посная вячэра, Дзед Мароз, сьпяваньне калядак і г. п.

**7 студзеня — нядзеля: 10-я гадзіна нараніцы:** калядняя Божая Служба.

**4-я гадзіна папаўдні:** Канцэрт і супольны пачастунак у Гайндмарш Тэўнгол.

**8 студзеня — панядзялак:** Маёўка ў Байнайтэн парку.

**9 студзеня — аўторак: 10-я гадзіна нараніцы ў Беларускай Залі:** Выбары прэзыдыюму Сустрэчы, выбары мандатнай камісіі й праверка мандатаў, абмеркаваньне й прыняцьце Статуту, выбары Выканаўчага Камітэту.

**6-я гадзіна ўвечары:** зачыненьне Сустрэчы, пажаданьні, разьвітаньне й сяброўскі пачастунак.

**Увага:** На паседжаньні 9 студзеня прысутнічаюць кандыдаты арганізацыяў з мандатам і правам пастаноўнага голасу.

З даручэньня Тымчасовай Фэдэральнай Рады
**Беларускае Аб'еднаньне ў Паўдзённай Аўстраліі:**

**Я. Ролсан — Старшыня** **Ул. Акавіты — Сакратар**

**Увага:** усе прыежджыя ўдзельнікі й госьці із ЗША будуць забясьпечаны кватэрамі.

*ВІТАЕМ*

*БРАНІСЛАВА ДАНІЛОВІЧА*

*сябру Рэдакцыйнае Калегіі „БЕЛАРУСА", даўгагадовага й ахвярнага пашыральніка роднага друкаванага слова й ідэйнага працаўніка ў шмат якіх галінах беларускага нацыянальнага жыцьця, раней на Бацькаўшчыне, пазьней на чужыне, із семдзесятымі ўгодкамі ад Ягонага нараджэньня ды шчыра зычым Яму добрага здароўя, даўгога жыцьця й далейшае плённае дзейнасьці на беларускай нацыянальнай ніве.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"*
*Сэктар Рады БНР у Нью Джэрзі*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскай Моладзі*
*Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў*

## СУСТРЭЧА З ГАСЬЦЬМІ З-ЗА АКІЯНУ

Сёлета 4 лістапада зь ініцыятывы сяброваk Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня адбылася сяброўская сустрэча із спадарствам Дзімам і Надзяй Касмовічамі, што, прыбыўшы зь Нямеччыны, наведалі нас у Нью Ёрку. Сустрэча мела месца ў Фундацыі Пётры Крэчэўскага ў Нью Ёрку на Джамэйцы.

Значная колькасьць, у васноўным ньюёркаўцаў, хаця былі й людзі із суседняга штату Нью Джэрзі, прынялі ўдзел у гэтай сустрэчы. Зыйшліся й тыя, што знаці нашых гасьцей яшчэ з бацькаўшчыны, як і тыя, што хацелі зь імі пазнаёміцца адно цяпер. Я была ў ліку найдаўнейшых знаёмых — сяброўка Дзімы Касмовіча яшчэ із школьнае лавы нейдзе ў 20-ых гадох і з тае самае клясы Нясьвіскае гімназіі. А гімназія гэтая ў некаторых дачыненьнях была слаўная. Пра яе калісьці скажам шырэй пры іншай нагодзе.

А цяпер вернемся да тэмы. Нашую ўвагу пахлынае рэфэрат сябры Касмовіча, гутаркі й ягоныя адказы на нашыя пытаньні. Дакладчык шырака паінфармаваў пра сваё супрацоўніцтва ў розных міжнародных арганізацыях, што сваёй мэтаю ставяць вызваленьне паняволеных народаў, у тым ліку й беларускага народу. На лініі ачольванага ім Беларускага Вызвольнага Фронту сп. Касмовічу даводзілася ціраз прымаць удзел у канфэрэнцыях і зьездах гэных арганізацыяў у Нямеччыне, Ангельшчыне, Швайцарыі, Францыі, усюды прапагуючы беларускую нацыянальна-вызвольную ідэю ды здабываючы для гэтае ідэі штораз новых сымпатыкаў.

З асаблівай асалодай мелі мы таксама нагоду паслухаць сп-ню Надзю Касмовіч (дзявоцкае прозьвішча Міцкевіч), бацька якой ёсьць родным братам Якуба Коласа. І ніяк не маглі канкураваць з такой ажыўленай і цікавай бясядай смачныя запахі із суседняга пакою, дзе была падрыхтаваная перакуска. Ніхто туды не сьпяшаўся. Але на ўсё свой час.

Тытулавалі прысутныя Дзіму Касмовіча генэралам, бо такі ягоны чын сяньня. А для мяне, як і іншых ягоных школьных калегаў, хіба назаўсёды застанецца ён Дзімам Касмовічам. Бывайце здаровыя, дарагія Госьці! Шмат Вам посьпеху ў нацыянальнай дзейнасьці!

**Зіна Станкевіч**

## К. АКУЛА Ў РЭДКАЛЕГІІ „СОВРЕМЕННИКА"

З датай 22-га кастрычніка 1978 г., наш пісьменьнік К. Акула атрымаў ад рэдкалегіі „Современника", што выдаецца ў Таронце, ліст наступнага зьместу:

„Многашаноўны Сп. Акула!

Маем гонар паведаміць Вас, што пастановай Рабочай групы Рэдакцыі часапісу „Современник" Вы кааптаваны ў склад сяброў Рэдкалегіі нашага часапісу. Гэтая пастанова падлягае пацьверджаньню на бліжэйшым паседжаньні Рэдакцыі „Современника".

З удзячнасьцю згадваючы пра Вашае супрацоўніцтва з „Современником", пра помач, якую Вы нам неаднаразова рабілі, мы спадзяёмся на прадаўжэньне гэтага супрацоўніцтва ў будучыні — для агульнага дабра расейскай і беларускай літаратураў".

З запраўднай пашанай
Галоўны Рэдактар „Современника"
Л. Фабрыцыюс
В. А. Рэдактара
Аляксандар Гідоні
Адказны Сакратар „Современника"
Г. Румянцава."

Душой расейскага часапісу „Современник", што выдаецца ў Таронце чатыры разы ў год (або падвойнымі нумарамі два разы ў год) і які даходзіць у Савецкі Саюз, ёсьць ведамы расейскі дысыдэнт, паэта, гісторык, літаратуравед Аляксандар Гідоні й ягоная жонка Галіна Румянцава. Дзякуючы ім, часапіс, першы спасярод іншых эміграцыйных расейскіх часапісаў на эміграцыі, зьмяшчае матар'ялы пра Беларусь, галоўна дзякуючы ўдзелу К. Акулы.

**К.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Да гэтага часу выйшла ўжо адзінаццаць нумароў беларускага вэтэранскага часапісу „Зважай". Часапіс, што зьмяшчае пераважна ўспаміны з вайсковай мінуўшчыны Беларусі дый іншыя матар'ялы на ваенную тэматыку, патрабуе дапамогі й падтрымкі нашых суродзічаў вэтэранаў і іншых. Калі маеце якія ўспаміны, або хочаце памагчы фінансава, просім зрабіць гэта неадкладна.

Адначасна папярэджваем тых чытачоў, якія ад першага атрымання імі нумару яшчэ не аплацілі коштаў часапісу й перасылкі, што з наступным нумарам высылка часапісу ім спыніцца. Чакаем на Ваш водгук.

Просіцца пісаць на адрыс:
ZVAZAJ, 57 Riverdale Avenue
Toronto, Ont. M4K 1C2, Canada.

**Выд. „Зважай"**

### СПРАВАЗДАЧА ФОНДУ БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

Паводля стану на 1. X. 1978 г., наконьце Фонду Падручнікаў пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, ад часу заснаваньня сабрана з ахвяраў, з продажы кніжак ды банкавых працэнтаў 3,428.38 даляраў. З гэтае сумы 3,390.00 даляраў пераказана на выданьне першае й другое часткі ангельска-беларускага падручніка беларускае мовы В. Пашкевіч "Fundamental Byelorussian".

Аўтарка падручніка, сп-ня В. Пашкевіч, пачала працу над укладам чарговае кнігі — ангельска-беларускага слоўніка (каля 60.000 словаў). І на выданьне слоўніка патрэбная будзе вельмі грамадзкая дапамога. Далейшыя ахвяры на Фонд Падручнікаў кіраўніцтва Фонду просіць слаць на адрыс:

Byelorussian Institute of Arts
and Sciences
3441 Tibbett, Avenue
Bronx, N. Y. 10463 U.S.A.

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА № 6

## БЕЛАРУСКІЯ ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ



Маладыя (інкрустацыя з саломкі)

Славіцца беларускі народ сваімі абрадамі, што ствараліся й афармляліся на працягу даўгіх стагодзьдзяў. А кажнаму абраду спадарожнічала песьня. Самыя чулыя людзкія перажываньні й настроі выліваліся ў спантанічную творчую народную лірыку — народную песьню. Ёсьць такія абрады, якія ня гэтак і цяжка, хай сабе й няпоўнасьцяй, культываваць і тут у Вольным Сьвеце. Дык каб пазнаёміцца зь імі тым, хто іх ня ведае, і прыпомніць тым, хто ведае іх, пачнём сяньня гэтую новую тэму ў „Жаноцкай Старонцы" ад вясельных абрадаў.

Ім якраз і прысьвечаны найбольшы лік народных песьняў.

Вясельле — гэта не адзін абрад, а цэлы складаны рытуал, разьлічаны на шмат дзён, як-бы свайго роду інсцэнізацыя, праводжаная дзяляткамі асобаў. Называліся гэтыя этапы вясельнага абраду: **сватаньне** або агледзіны, малая гарэлка, барыш; **заручыны,** інакш запоіны, змовіны, вялікая гарэлка; **пячэньне караваю; суборная сыбота,** інакш дзявоцкі вечар, панenскі вечар, вечарынка, вянок; **пасад** з падстрыганьнем і багаслаўленьнем маладых бацькамі; **шлюбавіны** або вянец з банкетаваньнем у доме бацькоў нявесты; **пераезд маладой у дом маладога**, дзе таксама адбываўся вясельны банкет; нарэшце **пярэзвы** або перазовы, якімі заканчвалася вясельле.

Тэматыка песьняў была разнастайная, у васноўным прысьвечаная разьвіцьцю сямейных дачыненьняў. Самыя даўнія вясельныя песьні захавалі сьляды старых формаў шлюбу, як „умыканьне" або „захоп" і купля-продаж нявесты.

Заклінальныя песьні мелі на мэце паспрыяць маладым: іхнай узаемнай ласцы, згодзе й дабрабыту — гэта пераважна каравайныя песьні. Шмат пялася й вялічальных песьняў, прысьвечаных удзельнікам вясельля: маладым, дружкам і радні. Але пераважалі элегійныя песьні, якія насьвятлялі розныя перажываньні вясковай дзяўчыны на пераломе ейнае долі. У песьнях гэтых шмат смутку й горычы. Але ўсё-ж заўсёды весела мусіла быць на вясельлях. Таму вялікай папулярнасьцяй цешыліся жартаўлівыя песьні. Пачуцьцё гумару — адна з выдатных рысаў нацыянальнага характару Беларуса. Жарты былі дасьціпныя, але дабрадушныя, высьмейвалі яны й дружак, і маладых, а асабліва свата й сваху. Навет расейскі фальклярысты А. Занкевіч гэтак выказваўся пра гэта: „Песьняў жартоўнага зьместу ў Беларусаў шмат, куды больш, чымся ў Вялікарусаў". Жарты, песьні й скокі пад добрую музыку характарызавалі запраўднае беларускае вясельле — радаснае сьвята часта ўсяе вёскі.

Ніжэй, дзеля прыкладу, знаёмім нашых чытачоў з апісаньнем вясельнага абраду, прысланым нам з Аўстраліі з успамінаў з канца XIX-га — пачатку XX-га стагодзьдзя.

***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ АБРАДЫ НА БАБРУЙШЧЫНЕ

Вясельныя абрады пачынаюцца ад сватаньняў. Незалежна ад таго, ці хлапец хоча злучыць свой лёс зь лёсам дзяўчыны, бо яднае іх глыбокае пачуцьцё каханьня, ці з чыста матарыяльных мяркаваньняў, ён перш-наперш мусіць мець згоду ейных бацькоў. Выбраўшы сабе за свата чалавека спрытнага на язык, якому па слова ў кішаню лезьці ня трэба, хлапец купляе пляшку „весялухі" й, пераважна ў сыботу, разам із сватам выпраўляецца ў дарогу.

Вестка аб прыезьдзе сватоў найчасьцей даходзіць раней да бацькоў дзяўчыны, якія чакаюць жаданых гасьцей. Сват, уваходзячы ў хату, нэўзаметку зьвязвае венікі ў качарэжніку: гэта каб зьвязаць маладую пару. Пасьля прывітаньняў сват, не адкладаючы, пачынае гутарку аб мэце свайго прыезду. Ягонае заданьне ня толькі дабіцца згоды бацькоў, але й вытаргаваць ад іх як найлепшы пасаг. Бацькі ў бальшыні выпадкаў ужо раней прыгатавалі свой адказ свату, але клічуць дачку, і калі яна прыхільная, на стол стаўляецца бутэлька. Гаспадыня прыносіць закуску, бо пры пачастунку лягчэй памысна закончыць справу й назначыць час заручынаў.

Дзяўчына абвязвае свата прыгожым ручнікам, які ён носіць на сабе на працягу ўсяго вясельля. Заручыны адбываюцца цераз два-тры тыдні ў маладое, бацькі якое падаюць пачастунак, а жаніх ставіць напітак. Гасьцей ня шмат — самыя блізкія сваякі. Яны абмяркоўваюць прыгатаўленьні да вясельля й вызначаюць ягоны час, бо заручыны трываюць толькі гэтак доўга, колькі трэба часу, каб мог адбыцца шлюб. Пярсьцёнкі на шлюб купляе малады ды таксама падаркі маладой, прыкладам, прыгожую вялікую хустку. Маладая спраўляе свой шлюбны ўбор: доўгую белую сукенку, вэлін і букет кветак. Яна купляе шлюбную кашулю й маладому. Дружкі свае ўборы спраўляюць самі.

Шлюб заўсёды адбываецца ў нядзелю або ў дзень якогась рэлігійнага сьвята. Вечарам перад шлюбам у маладой зьбіраецца запрошаная моладзь: сяброўкі й сябры маладое пары на дзявоцкі вечар. Пачастунак падрыхтоўваюць бацькі маладое, а хлапец аплачвае музыку, цукеркі й гарэхі. Вечар зацягваецца да раніцы.

У дзень вясельля ў маладое зьбіраюцца дружкі, ейныя хрышчоныя бацькі, сваякі й суседзі. Дружкі прыбіраюць маладую да шлюбу й садзяць яе на накрытую кажухом воўнай наверх хлебную дзяжу, каб спарыла маладой пары. Прыбіраючы маладую, дружкі пяюць:

*А стаяла, буяла.*
*А стаяла, буяла*
*Канапелька ў агародзе,*
*Ня даў-жа ёй ветрык*
*Больш пастаяці*
*І лістком памахаці,*
*Адбіў ёй лісточак*
*На жоўты пясочак.*
*А гуляла, красавала,*
*А гуляла, красавала*
*Дзеванька ў сваёй мамачкі.*
*Ня даў ёй Кастуська*
*Яшчэ болей пагуляці,*
*Русай косай памахаці.*
*Разьвіў-жа ён коску*
*Ды разьліў яе сьлёзку.*

Перад ад'ездам да шлюбу ўсе сядаюць перакусіць, толькі адна маладая нічога ня есьць. У хаце й на дварэ зьбіраецца шмат народу, каб адправіць маладую. Пачынаецца песьня:

*Кланяйся, кланяйся Аксінька*
*Ды старому, маладому,*
*Ой нізенька.*

Маладая кланяецца бацьку, які яе багаславіць на новае жыцьцё. Пасьля маладая кланяецца маці, якая таксама багаславіць дачку. І гэтак-жа маладая разьвітваецца з братамі, сёстрамі, роднымі й прыяцелямі. Пасьля гэтага сумнага й глыбака пачуцьцёвага разьвітаньня дружкі выводзяць маладую й садзяць на першы зь некалькіх прыгожа прыбраных вазоў, на якіх маладая з хрышчонай маткай, дружкі й іншыя паедуць да шлюбу. Перад самым ад'ездам маці маладой тройчы абходзіць навокал ейнага возу й пасыпае яго збожжам — на багатае жыцьцё. Прысутныя пяюць:

*А Аксінька к вянцу едзе,*
*Яе доля ў варот стаіць . . .*

Маладая адказвае:

*Доля, мая доля,*
*Доля-ж мая доля,*
*А калі ты добрая,*
*А калі ты добрая,*
*Садзіся са мною.*
*А калі ты ліхая,*
*А калі ты ліхая,*
*Ідзі ў вір за вадою.*

Маладой — сіраце сьпяваюць іншыя песьні.

Малады ў сябе дома, таксама гатовы да ад'езду разам із сваім хрышчоным бацькам і дружбанамі.

Маладая пара спатыкаецца каля царквы. Да шлюбу маладую вядзе ейная хрышчоная маці (калі яе ўжо няма ў жывых, дык прыбраная — пасажоная маці), а маладога — ягоны хрышчоны бацька. Дружкі й дружбаны йдуць парамі за маладымі. Падчас шлюбу маладая, саступаючы з дываніка, пацягвае яго нагою за сабой, каб ейныя дружкі таксама скора выйшлі замуж. Пасьля шлюбу маладыя — ужо муж і жонка разам едуць да бацькоў маладое, а тут ужо ўсё гатовае на іхнае прывітаньне.

У тым часе, калі маладыя бралі шлюб, у хаце была вялікая гарачка, бо жанчыны канчалі ўсе прыгатаўленьні да бяседы, а самае галоўнае — пяклі й упрыгожвалі каравай:

*Караваю, мой раю,*
*Я цябе пяку й іграю*
*Ручкамі бяленькімі,*
*Зь персьнямі залаценькімі.*
*Ляцелі гусачкі з раю,*
*Пыталіся ў нас караваю.*
*Караваю, мой раю,*
*Я цябе пяку й іграю.*

Вясельная дружына вяртаецца дамоў добра папаўдні. Яе спатыкае маці маладое з хлебам, соляй і чаркай. Іграе музыка. Маладыя ўвахо-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

# БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ АДЗЕНЬНЕ — ЛЮСТРА СТАРАЖЫТНАЕ КУЛЬТУРЫ

**(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З № 5 „ЖАНОЦКАЕ СТАРОНКІ")**

Вяртаемся, як абяцалі ў № 5 „Жаноцкай Старонкі", надрукаванай у № 251-ым „Беларуса", у якім былі зьмешчаныя ілюстрацыі 9-ёх народных касьцюмаў зь Беларускага Фэстывалю 1977 году, да тае-ж яшчэ незакончанае тэмы. Мэтай нашай — пазнаёміць усіх Беларусаў праз газэту „Беларус" з багацьцем народнае вопраткі на беларускіх фэстывалях 1976 і 1977 гадоў, а марай нашай — надрукаваньне ў будучыні гэтага матарыялу асобнай брашурай-кніжачкай.



Сям'я Спадарства Рагалевічаў

Пасоўваемся ў вызначаным кірунку, хай сабе й павольным крокам, але пасоўваемся. Моцна патрэбныя нам зразуменьне й падтрыманьне, у першую чаргу Вашыя, дарагія беларускія жанчыны й дзяўчаты, а таксама й шырэйшага кола нашых сымпатыкаў і прыяцеляў. Гэтым разам зьмяшчаем фотаздымкі 10-ёх народных касьцюмаў, толькі пару яшчэ застанецца да заканчэньня гэтага цыклю.

Чаму перадусім нам залежыць на падтрымцы ад жанчынаў? А таму, што фактычна амаль уся нашая народная спадчына, як народная песенная лірыка, абрады, прыкладам, Купальле, Зажынкі, Дажынкі, Хрэсьбіны, Вясельле, Дзяды й іншыя, былі створаныя, культываваныя й нам пераказаныя якраз беларускай жанчынай, руплівай, працавітай і абдаранай мастацкімі здольнасьцямі, стараннай узгадавальніцай наступных пакаленьняў. Таму залежыць, што ў гурце й згодзе можам больш зрабіць якраз мы, як больш выразумелыя, вынаходлівыя й ахвярныя. Я ўпэўненая, што калі-б мужчыны больш прыслухоўваліся да сваіх жонак і сясьцёр, дык не глядзелі-б Беларус на Беларуса тут на эміграцыі злым вокам, ня было-б злосных прычэпак, а часам і варожасьці, бо памі-ж беларускімі жанчынамі гэтага няма, незалежна ад таго, у якой царкве хто моліцца. Галоўнае, каб маліўся.

Прабачце за гэтую дыгрэсію, але ўжо вяртаемся да тэмы. Прыглядзімся да першай фатаграфіі: на ёй сям'я Сяргея й Валі (дзявоцкае прозьвішча Захаркевіч) Рагалевічаў. Яны апранутыя ў касьцюмы зь Берасьцейшчыны (Палесьсе). Дзеці іхныя Міхась у веку 9-ці й Лора — 7-мі год рэпрэзэнтуюць, як я прачытала з прысланых мне запісаў, касьцюмы Смаленшчыны, хоць для мяне яны амаль нічым ня розьняцца ад палескіх. Усе касьцюмы гэтае сям'і выкананыя зь нябеленага палатна. У Валі блюзка й хвартух упрыгожаныя мярэжкай, на галаве палеская намітка. У Сяргея кашуля вышытая вузкімі пасачкамі, падпяразаная тканым поясам (вышываная кашуля ад Валінай маці Надзі Захаркевіч у падарунку для зяця). Касьцюмы дзяцей вельмі падобныя да касьцюмаў бацькоў з таго-ж нябеленага лёну з дробнымі аздобнымі вышыўкамі ці ў дзяўчынкі нашытымі істужкамі. Сяргей і Валя маюць на нагах лапці, дзеці на фэстывалі беглі па сходах-прамэнадзе для паказу касьцюмаў басанож, што выклікала гучныя воплескі глядачоў. Усе касьцюмы тыпова летнія, усе з чыстага лёну.

Ніяк не магу паўстрымацца, каб не сказаць трохі пра бацькоў Валі й Сяргея. Валя дачка Васіля й Надзі Захаркевічаў зь вёскі Мікашэвічы недалёка ад Пінску. Я памятаю Валю як вучаніцу беларускай сыботняй школы ў Нью Ёрку. Была яна добрай вучаніцай, выдатна дэклямавала беларускія вершы. Заўсёды яе ўспамінала, калі давялося мне вучыць траіх унукаў Захаркевічаў: Пятруся, Крысю й найменшую Нэнсі. А іхная бабка заўсёды дапамагала й наглядала за хатнімі школьнымі заданьнямі. Бацькі Валі сьведамыя Беларусы й гэткімі-ж выгадавалі сваіх дзяцей.

Ня здарылася нагоды пазнаёміцца мне з бацькамі Сяргея: Міхасём і Яўхімай Рагалевічамі, але ведаю таксама, што й яны сьведамыя Беларусы, бо добрае слова пра іх дайшло й да мяне. З Палесься, зь беларускай вёскі, што недалёка ад Турава, уцякаў ад ліхалецьця вайны зь сям'ёю Міхась, апыніўся ў Нямеччыне, дзе адразу пачаў шукаць іншых Беларусаў, каб заснаваць беларускі лягер. Зьмяніў некалькі лягераў, як Майлойз, Бакнанг і іншыя.

Як і шмат якія Беларусы, знайшоў сталы прыпынак у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, у Пэнсыльвэніі. Сямёра дзяцей выгадаваў дзядзька Міхась із сваёю жонкаю. Сярод іх Сяргея й Ірэну Рагалевічаў. Ірэна добра ведамая сярод Беларусаў і Амэрыканцаў, як выдатная мастачка. Яна — адна з адказных кіраўнічак беларускіх фэстываляў у Гардэн Стэйт Парку ў Нью Джэрзі. Гэта яна выканала мастацкае афармленьне калядных і навагодніх віншаваньняў і ў гэтым нумары „Беларуса". Ведаюць у Нью Джэрзі й Нью Ёрку яшчэ адну асобу з гэтай сям'і, якой заапякаваліся, вывезьлі з сабой у Нямеччыну й выгадавалі, як сваю дачку, 14-цігадовую дзяўчынку, сястру Міхася — Надзю Кудасаву (дзявоцкае прозьвішча Рагалевіч). Яна таксама няўтомная й энтузіястычная памагатарка ў ладжаньні беларускіх фэстываляў у Нью Джэрзі.

Няхай гэтых пару словаў прызнаньня спадару Міхасю Рагалевічу будуць адначасна й сьціплым вітаньнем яго з 70-мі ўгодкамі жыцьця, што адзначае ён із сваёй сям'ёю ў гэтым годзе й у гэтым месяцы лістападзе, якраз тады, калі пішуцца гэтыя словы.

Іншыя касьцюмы, зьмешчаныя ў гэтым нумары газэты, зь іншых мясцовасьцяў Беларусі. Пералічым гэтыя мясцовасьці ў наступным парадку:

**Меншчына.** Касьцюм маладой дэманстравала на фэстывалі Ніла Цярпіцкая. На ёй блюзка зь льня-

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011



### СЯМ'Я СЭНАТАРА РЫБІКАВА ЗЬ БЕЛАРУСІ

У сувязі з наведаньнем у палавіне лістапада сёлета дванаццацімa сэнатарамі ЗША Савецкага Саюзу, у тым ліку Беларусі, у амэрыканскім друку зьявілася паведамленьне аб тым, што сям'я сэнатара Абрагама Рыбікава, галавы дэлегацыі, паходзіць зь Беларусі.

### САЎТРЫВЭРСКІЯ ПЕРАМОЖЦЫ Ў ВАЛЕЙБОЛЕ

Беларуская валейбольная каманда з Саўт Рывэру выйшла на першае месца ў другой лізе штатаў Нью Джэрзі й Нью Ёрку. Турнір паміж валейбольнымі камандамі гэтых штатаў закончыўся 12 лістапада сёлета ў гор. Ньюварку ў Ньюджэрзійскім Інстытуце Тэхналёгіі. У турніры брала ўдзел 10 камандаў другое лігі.

Беларуская валейбольная каманда, дзякуючы сваёй перамозе, перайшла цяпер у першую лігу. Каманда належыць таксама да Амэрыканскае Асацыяцыі Валейбалістых. У нашую каманду ўваходзяць: Джордж Арцюшэнка, Нік Вайцяхоўскі, Бобі Цупрык, браты Стыў і Бобі Махначы, Дан Канэзік і Джорж Фатс.

Гэтак каманда працягвае слаўную традыцыю беларускага спартовага клюбу „Нёман", заснаванага ў Саўт Рывэры ў 1950 годзе сп. Грышам Арцюшэнкам.

Зычым маладым энтузіястым валейболу далейшых удачаў у першай лізе.

### ДЭКАЛЯНІЗАЦЫЯ СССР

У Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў 23 лістапада сёлета пададзены мэмарыял аб дэкалянізацыі Савецкага Саюзу. Мэмарыял пададзены асабіста дэлегацыяй ад імя Канфэрэнцыі Вольных Беларусаў, Эстонскае Сусьветнае Рады, Літувіскае Сусьветнае Грамады, Сусьветнага Кангрэсу Вольных Украінцаў і Сусьветнае Фэдэрацыі Вольных Латышоў. Мэмарыял мае форму кнігі на 148 бачынаў з пэтыцыямі аб дэкалянізацыі, зь гістарычнымі дакумэнтамі, фатаграфіямі, статыстыкай. Беспасярэдняя мэта мэмарыялу, перададзенага асабіста старшыні Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, прадстаўніку Калюмбіі — паставіць на парадак дня наступнае Генэральнае Асамблеі ЗН пытаньне аб дэкалянізацыі СССР: незалежнасьці Беларусі, Украіны й прыбалтыцкіх народаў.

22 лістапада ў будынку Чэрч-Сэнтэр Арганізацыі Задзіночаных Нацыяй адбылася прэсканфэрэнцыя на тэму дэкалянізацыі апошняе вялікае імпэрыі нашага часу — СССР.

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*



*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*

**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1979 ГОДУ**

*АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ*

*Рэдакцыйная Калегія „БЕЛАРУСА"*

---



**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**

вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з

**КАЛЯДНІМІ СЬВЯТАМІ І НОВЫМ 1979 ГОДАМ!**

---

**СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРЗІ**

**вітае з КАЛЯДАМІ ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве**

**ды жадае ім**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ**

**У АМЭРЫЦЫ**

жадае сваім сябром і прыхільнікам

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1979 ГОДУ!**

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ**

**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

### ІЗ ЗША Ў АЎСТРАЛІЮ

Як даведваемся, для ўдзелу ў Трэйцяй Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі ў Адэляйдзе вылятаюць наступныя асобы із ЗША: сп-ня Ванда Махнач з Чыкага й сп-чна Раіса Станкевіч зь Нью Ёрку.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва распаўсюджваў на канфэрэнцыі каталёг сваіх выданьняў і іншых беларускіх выдавецтваў, які можна набываць зь Інстытуту.

Сёлетняя канфэрэнцыя Асацыяцыі прыцягнула да сябе значную ўвагу амэрыканскага грамадзтва. Выявілася гэта ў прэсавых камунікатах, прэсканфэрэнцыі, а таксама ў зацікаўленьні й выдатным супрацоўніцтве як фэдэральных, гэтак і штатавых ды гарадзкіх уладаў. Як ужо згадвалася, губэрнатар штату Огаё Джэймс Рос абвесьціў тыдзень ад 9 да 15 кастрычніка Тыднём Спадчыны Ўсходняе Эўропы. Падзея гэтая была адзначаная адмысловай праклямацыяй, якую вельмі шырака распаўсюджваў амэрыканскі пэрыядычны друк.

Горад Калумбус таксама абвесьціў Тыдзень Культурнае Спадчыны Ўсходняе Эўропы. Гарадзкія бібліятэкі, унівэрсытэт штату Огаё ды школы наладзілі адмысловыя выстаўкі й лекцыі аб народах Усходняе Эўропы, перш-наперш аб народах беларускім, украінскім і расейскім. Вітрыны гарадзкіх магазынаў таксама наладзілі выстаўкі нацыянальных касьцюмаў і народных мастацкіх вырабаў. Гэтак у найбольшым магазыне гораду Калумбус Лазарус — у вітрынах былі выстаўленыя беларускі жаноцкі касьцюм, інкрустацыя із саломкі, беларуская вышыўка й народныя арнаманты. Выстаўленая была й лялька ў народнай вопратцы, а ў рэпрадуктарах магазыну й радыёстанцыі гораду бадай штогадзіны чуліся беларуская „Лявоніха" й „Крыжачок".

Арганізацыяй выставак і беларускага афармленьня іхных рэклямаў займаліся прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў штаце Огаё ды Аддзел Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Шчырае падзякі за выдатна выкананыя арганізацыйныя абавязкі заслугоўваюць сп-чня Гэлена Канафчук і інж. Кастусь Калоша.

**Вітаўт Кіпель**

## АМЭРЫКАНСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ПАДТРЫМОЎВАНЬНЯ СЛАВЯНАВЕДЫ

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

дзеных там расейска-беларускага й беларуска-расейскага слоўнікаў, а таксама першага тому Тлумачальнага слоўніка беларускае мовы былі прадэманстраваныя формы й прыхваткі русыфікацыі беларускае мовы. Русыфікацыя беларускае мовы, як адзначыла Тэрэза Олт, дасягнула нябывалых размераў ува ўсіх дзялянках акадэмічнага жыцьця рэспублікі. Дакладчыца ў сувязі з гэтым з асаблівым націскам падчыркнула, што абавязкам заходніх навукоўцаў выдаць, пра што ўжо згадвалася, беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі слоўнікі. У сувязі з дакладам Тэрэзы Олт была раздадзеная кароткая бібліяграфія беларускіх і ўкраінскіх слоўнікаў з анатацыямі ў ангельскай мове.

Даклад д-ра Вітаўта Кіпеля зь Ньюёркаўскае Публічнае Бібліятэкі быў прысьвечаны аналізу магчымасьцяў дасьледваньня беларускае гісторыі ў амэрыканскіх бібліятэках. Ён зазначыў, што дасьледваньне беларускае гісторыі, асабліва пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага, у Савецкай Беларусі не папулярнае ды бадайшто й забароненае, гэтаксама як не дазволеныя для аб'ектыўнага вывучэньня й гэткія тэмы, як паўстаньне 1863 году, стварэньне беларускае дзяржавы — Беларускае Народнае Рэспублікі ў 1918 годзе, дыпляматычная дзейнасьць БНР, пэрыяд г. зв. нацдэмаўшчыны напачатку 30 гадоў. Доктар Кіпель статыстычным аналізам паказаў, наколькі камплектная дакумэнтацыя гэтых пэрыядаў у амэрыканскіх бібліятэках і заатым зусім магчымае ўсебаковае вывучэньне беларускай гісторыі й ейных асноўных пэрыядаў якраз у Амэрыцы. Падрабязна спыніўся дакладчык і на пэрыядзе Другое сусьветнае вайны ды на зьгзагах савецкіх дасьледваньняў гэтага пэрыяду, зазначыўшы, што амэрыканскія бібліятэкі маюць яшчэ шмат нявыкарыстаных крыніцаў — хронікаў, архіваў, успамінаў для вывучэньня мінулае вайны на Беларусі. Ён падрабязна разгледзеў праблему бібліяграфічнага ўліку беларусаведнага матарыялу ў мове ангельскай, беларускай і іншых славянскіх мовах ды працу, якая ў гэтай галіне вядзецца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Амэрыцы.

Як прыклады арыгінальных дасьледвальных працаў на беларускія тэмы д-р Кіпель адзначыў дасьледваньне жыцьцяпісу й дзейнасьці Францішка Скарыны, якое вядзе Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, выдаўшы адмысловы нумар сваіх „Запісаў", прысьвечаны Скарыну. Далей ён адзначыў працу д-ра Янкі Запрудніка „Палітычнае змаганьне за Беларусь у царскіх Дзяржаўных Думах" у ангельскай мове, працу праф. Уладзімера Сядуры пра беларускі тэатр, дасьледваньне праф. Антона Адамовіча пра савецызацыю беларускай літаратуры двацацых-трыццатых гадоў ды колькі іншых працаў.

---



# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1979 ГОДУ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*АЗАРКА МАРЫЯ й ЯНКА, ЮРКА й ІРЭНА*
*АКУЛА КАСТУСЬ зь СЯМ'ЁЙ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА, МІТРАФАН і ДЗЕЦІ*
*БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ВОЙТАНКА АННА, МІКАЛАЙ і ЛЕАНІД*
*ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ*
*ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА, ВІТАЛЬ, АЎГЕН, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ*
*КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД*
*Інж. КАЛОША КАСТАНЦІН*
*КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА*
*КАРАНЕЎСКАЯ АЎГЕНЯ, СЫН і ДАЧКА*
*КАРАНЕЎСКІ СТЭФА, ФЛЯРЫЯН, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КУНЦЭВІЧ МІКОЛА*
*МАРКЕВІЧ МАРЫЯ, АНТОН і ДЗЕЦІ*
*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР зь СЯМ'ЁЙ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН*
*НІКАН МІКОЛА й ЛЕНА зь ДЗЕЦЬМІ й УНУКАМІ*
*НОРЫК ЛЕАНІД і СЯМ'Я*
*Д-р РАМУК, ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ*
*СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ*
*СТАГАНОВІЧ КРЫСТЫНА й ЮРКА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ВЯЧАСЛАЎ зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАІСА*
*Інж. СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ*
*СУРВІЛА ІВОНКА, ЯНКА й ДЗЕЦІ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ АЛЯКСАНДРА й ЯНКА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*
*Айцец ЯНОЎСКІ АЛЯКСАНДАР*



*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

